[41] Гл.: Пиховкина Т. А. Графиня Ирина Ивановна Паскевич-Эриванская… Гомель, 2002. С. 25.
[42] Гл.: НГАБ. Ф. 3013. Воп. 1. Спр. 2041. Арк. 10–57 адв.
[43] Гл.: Кахновіч В. А. Гаспадаранне ў маёнтках Палескага рэгіёна Расійскай імперыі ў 1861–1917 гг. …
[44] Гл.: НГАБ. Ф. 3013. Воп. 1. Спр. 1894. Арк. 47–58.
[45] Гл.: Кахновіч В. А. Гаспадаранне ў маёнтках Палескага рэгіёна Расійскай імперыі ў 1861–1917 гг. …

Паступіў у рэдакцыю 08.09.2014.

***Віктар Адамавіч Кахновіч*** – кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры гісторыі Расіі.

*УДК 94(476.1-89)«18»+323.311(476.1-89)(091)«18»*

*Я. В. УЛАСАВЕЦ*

# ГРАМАДСКАЯ АКТЫЎНАСЦЬ ДВАРАНСТВА МІНСКАЙ ГУБЕРНІ Ў СЯРЭДЗІНЕ XIX ст.

Рассматривается общественно-политическая деятельность дворянства Минской губернии в середине XIX в., направленная на отмену ограничительных законов, введенных в белорусских губерниях после подавления восстания 1830–1831 гг. Анализируются проекты реформ, разработанные в 1856 г. мозырским и борисовским уездными предводителями дворянства в соответствии с нуждами населения. Определяется степень сходства данных документов с проектами других белорусских губерний. Исследуется их влияние на политику российского правительства в крае.

***Ключевые слова:*** предводители дворянства; реформы; самоуправление.

The article deals with the socio-political activities of the nobility of the Minsk province in the middle of the XIX century, which was aimed to the abolition of restrictive laws introduced in Belarusian provinces after the uprising of 1830–1831. The reform projects are analyzed, which were developed in 1856 by District (Uyezd) Marshals of the Nobility of Mozyr and Borisov districts, in accordance with the needs of the population of the province. The article defines the degree of similarity of these documents with the projects of other Belarusian provinces. Their influence on the policies of the Russian government in the region has also been studied.

***Key words:*** Marshals of the Nobility; reform; local government.

Гісторыя беларускага набілітэта даволі добра разгледжана ў айчыннай гістарыяграфіі, у тым ліку і пытанні, звязаныя з удзелам вышэйшага саслоўя ў развіцці грамадскай думкі[1]. Аднак дагэтуль існуюць некаторыя аспекты, на якія даследчыкі не звярталі сваёй увагі. Адным з іх з'яўляецца грамадска-палітычная дзейнасць дваранства асобных беларускіх губерняў у пачатку праўлення імператара Аляксандра II. Між тым наяўнасць у архівах раней неапублікаваных крыніц дазваляе даследаваць акрэсленую праблему, што і было зроблена ў дадзеным артыкуле на прыкладзе Мінскай губерні.

Дыскрымінацыйная палітыка ў дачыненні дваранства каталіцкага веравызнання, распачатая ў беларускіх і літоўскіх губернях пасля падаўлення паўстання 1830–1831 гг., значна абмяжоўвала яго правы і наносіла моцны ўдар па традыцыйнаму ладу жыцця, які існаваў на прасторы былой Рэчы Паспалітай стагоддзямі. Было відавочна, што сістэма, створаная ў час праўлення імператара Мікалая I, не адпавядала патрабаванням часу, бо перашкаджала мясцоваму насельніцтву паўнавартасна ўдзельнічаць у жыцці краю, што стрымлівала яго натуральнае развіццё. Таму ўзыходжанне на трон імператара Аляксандра II мясцовае грамадства ўспрыняло з энтузіязмам. Дабівацца змен ва ўрадавым курсе планавалася пры дапамозе легальных сродкаў – праз дзейнасць дваранскіх сходаў і абраных прадвадзіцеляў дваранства, якія павінны былі інфармаваць цэнтральную ўладу аб патрэбах мясцовага дваранства пры дапамозе запісак, хадайніцтваў і адрасоў[2].

Практыка падачы адрасоў існавала і раней, але яны былі ініцыіраваны з боку прадстаўнікоў царскай адміністрацыі і ўтрымлівалі ў сабе завярэнні ў лаяльнасці. З сярэдзіны 1850-х гг. сітуацыя кардынальна змяняецца. Адрасы пачалі адлюстроўваць рэальныя мары дваранства дзевяці заходніх губерняў. Адпаведна мяняецца і стаўленне да гэтых петыцый з боку мясцовых і цэнтральных улад.

Хваля падачы адрасоў пачалася хутка пасля ўзыходжання на трон Аляксандра II. Так, ужо ў лістападзе 1855 г. віцебская шляхта праз губернскага прадвадзіцеля дваранства звярталася да цара з просьбай унесці змены ў дыскрымінацыйную палітыку замяшчэння пасад у краі пераважна выхадцамі з унутраных губерняў, на што было адказана адмовай, матываванай адсутнасцю істотных довадаў для якіх-небудзь змен[3].

На мяжы 1855 і 1856 гг. адбылася масавая падача адрасоў ад усіх заходніх губерняў Расійскай імперыі. У гэтых адрасах выражалася спадзяванне, што Аляксандр II адновіць хаця б частку праў, адабраных падчас панавання яго бацькі. Першымі падалі адрас памешчыкі Віленскай губерні на чале з губернскім прадвадзіцелем дваранства А. Дамейкам. У ім дваране патрабавалі дазволу: 1) рамантаваць старыя і будаваць новыя касцёлы з утварэннем пры іх парафій; 2) выкладаць у школах на польскай мове; 3) адкрыць у Полацку ці якім-небудзь месцы Віленскай губерні ўніверсітэт. Адрас быў перададзены ў Пецярбург праз віленскага генерал-губернатара Д. Бібікава, які за гэта атрымаў дакор з боку цэнтральнай улады, а сам адрас не быў прыняты расійскім царом і быў вернуты назад з пісьмовым уведамленнем, што імператар, ведаючы яго змест, аддаў загад адаслаць яго з выражэннем свайго незадаволення[4].

Дваране іншых губерняў узялі гэты адрас за ўзор. Так, у студзені 1856 г. віцебскі губернскі сход прыняў пастанову аб падачы на імя цара адраса, у якім дамагаўся: 1) адкрыцця ў Полацку або якім-небудзь іншым прыдатным месцы Віцебскай губерні ўніверсітэта; 2) дазволу на пабудову і рамонт

касцёлаў; 3) увядзення ў навучальных установах выкладання на польскай мове[5]. Адрас быў дастаўлены ў Пецярбург віцебскім губернскім прадвадзіцелем дваранства С. Юрэвічам, які ўжо 25 сакавіка 1856 г. атрымаў адказ міністра ўнутраных спраў, дзе патрабаванні дваран Віцебскай губерні абвяшчаліся беспадстаўнымі. Адначасова С. Юрэвічу была зроблена заўвага за прыняцце дваранскай петыцыі, чаго ён, улічваючы рэакцыю ўлады на падобнага роду звяртанне ў лістападзе мінулага года, не павінен быў рабіць. Акрамя таго, імператар Аляксандр II загадаў абвясціць дваранам Віцебскай губерні і павятовым прадвадзіцелям дваранства, што яны не павінны ўмешвацца ў справы, вырашэнне якіх належыць выключна расійскаму ўраду[6].

З гэтых прыкладаў добра бачна, што ў асноўным кола патрабаванняў зводзілася да адмены дыскрымінацыйных законаў, якія абмяжоўвалі магчымасці дваран каталіцкага веравызнання свабодна задавальняць свае патрэбы ў галіне рэлігіі, мовы і адукацыі.

У сувязі з гэтым даволі арыгінальна выглядаюць патрабаванні дваранства Мінскай губерні, для выражэння якіх губернскі прадвадзіцель Л. Слатвінскі вырашыў скарыстаць запрашэнне на каранацыю Аляксандра II. У лістах ад 3 ліпеня 1856 г. ён звярнуўся да павятовых прадвадзіцеляў з просьбай падзяліцца сваімі меркаваннямі на гэты конт і напрыканцы месяца атрымаў адказ мазырскага і барысаўскага прадвадзіцеляў дваранства К. Замойскага і Ф. Макжыцкага[7].

Хадайніцтва К. Замойскага ўтрымлівала 5 пунктаў, у якіх гаварылася аб адмене законаў, што абмяжоўвалі правы прадстаўнікоў мясцовага дваранства займаць шэраг пасад па выбары і прызначэнні ўрада; аднаўленні ў Вільні ўніверсітэта і ўвядзенні ў павятовых вучылішчах выкладання на народнай мове; распаўсюджванні амністыі на ўсіх без выключэння прадстаўнікоў краю, якія ўдзельнічалі ў Крымскай вайне на баку антырасійскай кааліцыі; правядзенні чарговага ўсеагульнага перапісу з мэтай дакладнага ўліку памяншэння колькасці рэвізскіх душ для пераразмеркавання падаткаў; удасканаленні акцызнай сістэмы[8].

Як бачна, толькі адзін з пералічаных пунктаў, а менавіта той, які датычыўся аднаўлення вышэйшай навучальнай установы, супадаў з патрабаваннямі дваран Віленскай і Віцебскай губерняў, што сведчыць аб яго надзвычайнай важнасці ў вачах тагачаснага грамадства.

Яшчэ больш цікавай падаецца «Запіска пра патрэбы дваран Мінскай губерні і Барысаўскага павета» барысаўскага прадвадзіцеля Ф. Макжыцкага, якая складалася з 11 падрабязных пунктаў. Многія з гэтых пунктаў былі нетыповымі, сфарміраванымі пад уплывам мясцовых умоў. Так, удасканаленне мясцовай сістэмы адукацыі павінна было здзяйсняцца не шляхам аднаўлення ўніверсітэтаў у Вільні ці Полацку, а праз заснаванне ўніверсітэта ва ўжо не дзеючай на той час Беларускай навучальнай акрузе. Востры недахоп адчуваўся не толькі ў вышэйшых, але нават сярэдніх навучальных установах. Гэта знайшло сваё адлюстраванне ў імкненні адкрыць у Барысаве замест прыходскага 2-класнага павятовае 5-класнае вучылішча. Таксама агучвалася спадзяванне, што ў Брэст будзе вернуты кадэцкі корпус, які ў сувязі з пачаткам Крымскай вайны быў пераведзены ў Маскву[9].

Вялікая ўвага ў запісцы надавалася адмене дыскрымінацыйных законаў аб замяшчэнні пасад у краі. У прыватнасці, планавалася адмяніць абавязковую 10-гадовую ваенную ці грамадзянскую службу ва ўнутраных губернях Расіі, уведзеную ўказам ад 12 кастрычніка 1835 г., а таксама пакінуць права абрання на розныя пасады, якім карысталіся дваране іншых расійскіх губерняў[10]. Акрамя таго, у запісцы абгрунтоўвалася неабходнасць замяшчэння пасад земскіх спраўнікаў і старэйшых засядацеляў земскага суда паводле выбару дваран, а не па прызначэнні ад урада, як прадпісваў загад Мікалая I ад 31 кастрычніка 1831 г., што распаўсюджваўся на тэрыторыю Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губерняў[11]. Апошняе патрабаванне было актуальным і для дваран Віцебскай і Магілёўскай губерняў, дзе прынцып выбарнасці земскіх спраўнікаў таксама быў адменены ў снежні 1853 г. У сувязі з гэтым віцебскі і магілёўскі губернскія прадвадзіцелі С. Юрэвіч і С. Любамірскі ў 1856 г. звярнуліся ў Міністэрства ўнутраных спраў з просьбай дазволіць дваранству выбіраць земскіх спраўнікаў, але атрымалі адмоўны адказ[12].

Барысаўскі павятовы прадвадзіцель не абышоў у запісцы і пытанні эканамічнага плана. Пункты № 8–11 тычыліся спісання пені і адтэрміноўкі падатковых запазычанасцей з дваран, аднаўлення права аддаваць маёнткі ў арэнду, выключэння з рэвізіі памерлых і адданых у рэкруты, а таксама вызвалення памешчыкаў ад абавязкаў па будаўніцтве новых і рамонце старых праваслаўных цэркваў. Асаблівай падрабязнасцю і распрацаванасцю вылучаўся пункт, прысвечаны ўдасканаленню акцызнай сістэмы[13]. Паказальна, што дадзенае пытанне падымалася і гродзенскім губернскім прадвадзіцелем К. Ажэшкам, які дабіваўся ўвядзення ў Гродзенскай губерні акцызнай сістэмы па ўзоры Царства Польскага і дазволу на свабодную вытворчасць і продаж алкагольных напояў памешчыкамі[14]. Сведчаннем шырокай незадаволенасці ад увядзення акцызнага водкупу, які моцна абмяжоўваў у правах уладальнікаў вінакурных заводаў, былі шматлікія скаргі на супрацьпраўныя дзеянні яго служачых і ў іншых беларускіх губернях[15].

На жаль, інфармацыя аб далейшым лёсе праектаў К. Замойскага і Ф. Макжыцкага не захавалася. Адсутнасць сведчанняў пра іх у іншых крыніцах наводзіць на думку, што яны не пайшлі далей канцылярыі мінскага губернскага прадвадзіцеля дваранства. Аднак, нягледзячы на вонкавую беспаспяховасць, намаганні прадвадзіцеляў дваранства не зніклі дарма. Расійскі ўрад, акрэсліўшы кола пытанняў, якія б ён не задаволіў у любым выпадку, стаў на шлях пэўных саступак, што павінны былі павысіць ступень лаяльнасці памяркоўнага дваранства і паменшыць ступень незадаволенасці мясцовага дваранства. Так,

4 снежня 1856 г. імператарскі загад надаваў дваранству Мінскай, Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай губерняў аднолькавыя з астатнімі губернямі Расійскай імперыі правы адносна ўдзелу ў выбарах[16]. У 1857 г. ураджэнцы губерняў, якія ўваходзілі ў склад Віленскай навучальнай акругі, атрымалі дазвол адчыняць прыватныя навучальныя ўстановы, а ўжо праз год было адноўлена вывучэнне польскай мовы па выбары саміх навучэнцаў[17]. У 1860 г. кадэцкі корпус быў пераведзены з Масквы ў Вільню[18].

Стварэнне ў дваранскім асяроддзі Мінскай губерні праектаў рэфармавання ўрадавай палітыкі ў краі вельмі паказальнае. Іх грунтоўная прапрацоўка і сугучнасць з праектамі дваран іншых губерняў сведчаць аб разуменні іх аўтарамі супольнасці інтарэсаў грамадства ўсіх беларускіх губерняў. Разам з тым наяўнасць спецыфічных пунктаў адлюстроўвае імкненне да асэнсавання і задавальнення рэальных патрэб мясцовага насельніцтва на ўзроўні павета і губерні.

БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС

[1] Гл.: Жытко А. П. Дваранства Беларусі перыяду капіталізму. 1861–1914 гг. Мінск, 2003 ; Луговцова С. Л. Политика российского самодержавия по отношению к дворянству Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX века. Минск, 1997 ; Смалянчук А. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі Рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г. СПб., 2004 ; Токць С. М. Шляхецкае самакіраванне ў Гродзенскай губерні (пачатак XIX ст. – 60-я гады XIX ст.) // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 1997. № 7. С. 5–22.

[2] Гл.: Свод законов Российской империи : в 15 т. СПб., 1876. Т. 9. Ст. 142 ; Шубин-Поздеев Н. Настольная книга для уездных предводителей дворянства : в 2 ч. СПб., 1902. Ч. 1, т. 1. С. 27–28.

[3] Гл.: Шпопер Д. Политические инициативы польской шляхты в Западных губерниях Российской империи накануне восстания 1863 г. // Отечественная история. 2006. № 3. С. 91.

[4] Гл.: Szpoper D. Pomiędzy caratem a snem o Rzeczypospolitej. Myśl polityczna i działalność koserwatystów polskich w guberniach zachodnich Cezarstwa Rosyjskiego w latach 1855–1862. Gdańsk, 2003. S. 33.

[5] Гл.: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей – НГАБ). Ф. 2626. Воп. 1. Спр. 98. Арк. 2–3 ; Fajnhauz D. 1863: Litwa i Białoruś. Warszawa, 1999. S. 12.

[6] Гл.: Szpoper D. Pomiędzy caratem a snem o Rzeczypospolitej. S. 35.

[7] Гл.: НГАБ. Ф. 320. Воп. 1. Спр. 341. Арк. 9, 32.

[8] Там жа. Арк. 9–12.

[9] Там жа. Арк. 38 адв. – 39 адв.

[10] Гл.: Полное собрание законов Российской империи (далей – ПСЗ РИ). Собр. 2 : в 55 т. СПб., 1836. Т. 10, № 8463.

[11] Гл.: Токць С. М. Дзяржаўны апарат царызму ў Беларусі ў 30–50-я гады XIX ст. // Весці АН Беларусі. Сер. грамад. навук. 1996. № 2. С. 68.

[12] Гл.: НГАБ. Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 30145. Арк. 7–8, 10–11, 13–14 адв.

[13] Гл.: НГАБ. Ф. 320. Воп. 1. Спр. 341. Арк. 32а – 36 адв., 39 адв. – 42 адв.

[14] Гл.: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна (далей – НГАБ у Гродна). Ф. 1. Воп. 13. Спр. 921. Арк. 1–2.

[15] Гл.: НГАБ у Гродна. Ф. 1. Спр. 976 ; НГАБ. Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 53998.

[16] Гл.: ПСЗ РИ. Собр. 2 : в 55 т. СПб., 1857. Т. 31, № 31215.

[17] Гл. : Комзолова А. А. Политика самодержавия в Северо-Западном крае в эпоху Великих реформ. М., 2005. С. 21–22 ; Западные окраины Российской империи. М., 2007. С. 127–128.

[18] Гл.: Бекцінееў Ш. І., Кірылава Н. М. Брэсцкі кадэцкі корпус // Энцыкл. гісторыі Беларусі : у 6 т. Мінск, 1994. Т. 2. С. 101.

Паступіў у рэдакцыю 15.09.2014.

***Яўген Вячаслававіч Уласавец*** – аспірант кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу. Навуковы кіраўнік – кандыдат гістарычных навук, дацэнт, загадчык кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу А. Г. Каханоўскі.

*УДК 336.22(476-22)«19»:930*

*С. В. ВАЙТОВИЧ*

# НАЛОГООБЛОЖЕНИЕ БЕЛОРУССКОЙ ДЕРЕВНИ ПЕРИОДА НОВОЙ ЭКОНОМИЧЕСКОЙ ПОЛИТИКИ: ПРОБЛЕМЫ ИСТОРИОГРАФИИ

Рассматриваются вопросы становления налогообложения деревни и социально-экономических последствий налоговых кампаний в 1920-е гг. На основе историко-генетического метода делается вывод, что белорусская историография налогообложения деревни 1920-х гг. следовала в русле общесоветских тенденций изучения данной проблемы. Специализированных исследований в отечественной историографии не проводилось. Первые публикации по проблеме аграрного налогообложения вышли в 1920-х гг. Они носили общий характер, по большей части готовились партийными и советскими руководителями, однако отдельные авторы предлагали собственные методики изучения налоговых материалов. В 1930–40-х гг. издаются материалы по технике обложения, публикуются законодательные материалы центральных и местных финансовых органов по вопросам налогообложения. В 1950–60-х гг. возрождается интерес к изучению индивидуального крестьянского хозяйства 1920-х гг., что требовало привлечения и анализа налоговых материалов. В позднесоветской и постсоветской историографии стали обращать внимание на особенности налога как инструмента государственного регулирования народного хозяйства, его роли в социальных преобразованиях в деревне. Современными исследователями делается вывод о переобложении деревни, в особенности ее средних слоев, что в целом негативно сказывалось на общем состоянии сельского хозяйства.

***Ключевые слова:*** налогообложение; налоговая политика; единый сельскохозяйственный налог; промысловый налог; объекты обложения; налоговая статистика.

The author deals with the formation of the taxation of the village and the socio-economic impact of tax campaigns in the 1920s. On the basis of the historical-genetic method, the author concludes that the Belarusian historiography taxation village 1920s followed in line with the general Soviet tendencies of studying this problem. Specialized studies in the Belarusian historiography was conducted. First publications on agricultural taxation came in the 1920s. They were of a general nature, for the most part prepared by party and Soviet leaders, however, some authors have proposed their own method of study of tax materials. In 1930–40s published materials on the art of